№116 (1929)
Субота, 26 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +20...+22, уначы — +13...+15, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +14...+16, уначы — +11...+13, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +23...+25, дождж, уначы — +15...+17, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +13...+15, дождж; у Магілёве ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## «Меры бяспекі і даверу чацвёртага пакалення»

### прапанаваў распрацаваць прадстаўнік Беларусі на штогадовай канферэнцыі АБСЕ па аглядзе ў галіне бяспекі, што прайшла ў Вене.

У выступленні на канферэнцыі намесніка міністра замежных спраў Беларусі Аляксандра Сычова прагучала меркаванне аб тым, што ваенна-палітычнае вымярэнне АБСЕ мае патрэбу ва ўзмацненні. У прыватнасці, адным са шляхоў з'яўляецца распрацоўка мер даверу і бяспекі чацвёртага пакалення. Гаворка ідзе аб выхадзе на якасна новы ўзровень працэсу абмену інфармацыяй у гэтай сферы. У прыватнасці, неабходна павысіць празрыстасць і ступень даверу ў галіне абмену ваеннай інфармацыяй, што тычыцца ваенных дактрын дзяржаў, узбраенняў і іншых пытанняў.

Акрамя таго, у выступленні намесніка міністра ішла гаворка аб неабходнасці аналізу і перагляду дакумента АБСЕ аб лёгкай і стралковай зброі, прынятага ў 2000 годзе.

Ён таксама паведаміў, што Аляксандр Сычоў зноў засяродзіў увагу АБСЕ на неабходнасці вырашэння праблем, якія датычацца наяўных у Беларусі боезапасаў, у тым ліку тых, што ўтрымліваюць гексаген. У вырашэнні гэтай праблемы Мінск разлічвае на дапамогу АБСЕ.

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ.**

## Выслухаюць. Даложаць. Прымуць рашэнне

*Учора ў Мінску прыступіла да працы камісія Еўрапейскага Саюза па расследаванні фактаў парушэння правоў беларускіх прафсаюзаў.*

Рашэнне аб яе стварэнні было прынята Еўрапейскай камісіяй напрыканцы мінулага года на падставе афіцыйнага звароту да кіраўніцтва ЕС Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП). МКСП, у прыватнасці, прасіла еўрапейскага камісара па гандлі Паскаля Ламі разгледзець пытанне аб пазбаўленні Рэспублікі Беларусь гандлёвых прэферэнцый у сувязі з тым, што беларускія ўлады працягваюць груба парушаць правы прафсаюзаў, не рэагуючы на рэкамендацыі Міжнароднай арганізацыі працы.

Па выніках візіту камісія падрыхтуе даклад, на падставе якога Еўрасаюз будзе прымаць рашэнне адносна гандлёвых прэферэнцый у дачыненні да Беларусі.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Два месяцы таму быў затрыманы Міхаіл Марыніч

*Паводле непацверджанай пакуль афіцыйна інфармацыі, следчыя Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці рыхтуюць для прадстаўлення ў органы пракуратуры дакументы на працяг тэрміну следства па справе Міхаіла Марыніча.*

Два месяцы з часу затрымання вядомага грамадска-палітычнага дзеяча краіны заканчваюцца сёння.

Міхаіл Марыніч абвінавачваецца ў злачынстве, прадугледжаным часткай 2 артыкула 295 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. "Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў". Яно караецца выпраўленчымі работамі тэрмінам да двух гадоў альбо арыштам тэрмінам на шэсць месяцаў, ці абмежаваннем волі тэрмінам да пяці гадоў, альбо пазбаўленнем волі тэрмінам да шасці гадоў з канфіскацыяй маёмасці альбо без канфіскацыі.

Паводле існуючых звестак, пытанне аб змяненні Міхаілу Марынічу меры стрымання на не звязаную з утрыманнем пад вартай не разглядаецца.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## У Польшчу сталі ездзіць менш

*Пасля рэканструкцыі пункт мытнага афармлення ў Брузгах на беларуска-польскай мяжы стане самым сучасным з усіх, што існуюць на мяжы Беларусі.*

Сёння тут дзейнічаюць 5 тэхналагічных ліній па легкавым накірунку на выезд і чатыры — на ўезд. Пасля рэканструкцыі іх стане 12 — на ўезд і 8 — на выезд. Такім чынам, прапускная здольнасць пункта дасягне 5,5 тысячы транспартных сродкаў за суткі.

Да 1 ліпеня — даты ўвядзення новых норм увозу прадуктаў — колькасць перамяшчаемых грамадзян Беларусі трымаецца на пастаянным узроўні. Напрыклад, у верасні 2003 года, да ўвядзення візавага рэжыму, цераз пагранпераход у Брузгах кожныя суткі прапускалі 6550 грамадзян, зараз — каля 5,5 тысячы. А ўсяго з пачатку года цераз пункт мытнага афармлення ў абодва бакі былі прапушчаны 904 тысячы чалавек.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## У Партугаліі сваё вяселле, у нас — сваё

*Завяршыўся 11-ты тур чэмпіянату Беларусі па футболе сярод каманд вышэйшай лігі.*

Ждановіцкая "Дарыда" згуляла дома ўнічыю 2:2 з салігорскім "Шахцёрам", а мінскае "Дынама" вырвала перамогу ў Жодзіне ў мясцовага "Тарпеда" — 1:0.

Становішча каманд: "Тарпеда-СКА" (Мінск), "Дынама" (Мінск) — па 25 ачкоў, БАТЭ (Барысаў) — 23, "Тарпеда" (Жодзіна) — 22, "Шахцёр" (Салігорск) — 20, "Славія" (Мазыр) — 19, "Гомель" — 18, "Дарыда" (Ждановічы) — 16, "Дынама" (Брэст) — 14, "Зорка-ВА-БДУ" (Мінск) — 12, "Нёман" (Гродна) — 11, "Лакаматыў" (Віцебск) — 9, "Дняпро-Трансмаш" (Магілёў) — 8, МТЗ-РІПО (Мінск), "Нафтан" (Наваполацк) — па 7, "Белшына" (Бабруйск) — 5.

Наступны тур адбудзецца 29-30 чэрвеня.

## Аўстралійцы могуць адпачываць

*Беларус Максім Мірны і індыец Махеш Бхупаці выйшлі ў другі круг парнага разраду Уімблдонскага тэніснага турніру.*

Яны ў двух сэтах — 6:3, 6:4 — выйгралі ў Хішама Аразі з Марока і Джошуа Ігла з Аўстраліі.

Наступны сапернік беларуска-індыйскага дуэта вызначыцца ў матчы галандцаў Раемона Слейтэра і Марціна Феркерка з іспанцамі Хуанам Караска і Томі Рабрэда.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Валанцёры едуць з мірам. У Мір

*Міжнародны валанцёрскі лагер для працы ў гарадскім пасёлку Мір фарміруецца рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем "Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА".*

Лагер ствараецца ў рамках праекта "Замкі Беларусі", мэта якога - аказанне дапамогі ў правядзенні рэстаўрацыйных работ на гісторыка-архітэктурных аб'ектах.

Цяпер вядзецца конкурсны адбор удзельнікаў Мірскага праекта, бо заявак з рэгіянальных навучальных устаноў Беларусі пададзена больш, чым планавалася. Больш шансаў трапіць у лагер у таго, хто ўжо мае вопыт працы ў падобных маладзёжных фарміраваннях. У штаце лагера будуць каля 25 студэнтаў з улікам замежных валанцёраў — збіраюцца прыехаць групы з Малдовы і Францыі.

Выезд у Мір запланаваны на 19 ліпеня.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Казалі ж вадзіцелям, што «13» — чортаў тузін

*У Брэсце, на аўтастаянцы па вуліцы Шырокай, пры перагрузцы з аўтамабіля "МАН" у "Мерседэс" супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй было затрымана 13 тон спірту.*

У аўтамашыне "МАН" з расійскімі нумарамі, за рулём якой знаходзіўся жыхар Пінска, які працуе ў Бранску, было знойдзена 12,5 тоны вадкасці, у "Мерседэсе" — паўтоны. Другім аўтамабілем кіраваў брэстаўчанін.

Транспарт і спірт затрыманы. У дачыненні да ўдзельнікаў здзелкі складзены адміністрацыйны пратакол, па гэтым факце праводзяцца следчыя мерапрыемствы.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

СИТУАЦИЯ

# Валерий Фролов станет коллегой Лидии Ермошиной?

Похоже, кроме закончившейся голодовки и планируемой масштабной акции 21 июля с подведением итогов десятилетнего президентства Александра Лукашенко, у депутатов парламентской группы "Республика" еще очень много идей. По окончании голодовки Валерий Фролов заявил в интервью белорусской службе Радио Свобода, что его квартира останется штабом оппозиции. Более того, именно в ней будет заседать общественная альтернативная Центральная избирательная комиссия.

Напомним, что в Беларуси уже был один альтернативный Центризбирком. Когда осенью 1996 года, перед референдумом по внесению изменений в Конституцию, с поста председателя Центральной комиссии по выборам был смещен Виктор Гончар, он создал свой, неподконтрольный власти ЦИК. Равно как и продолжал действовать Верховный Совет 13-го созыва, состоящий из тех депутатов, которые не приняли итоговые цифры референдума. Именно ЦИК Гончара провел (пусть и неудачно. — **Ред.**) альтернативные президентские выборы в 1999 году. После этого Виктор Гончар исчез. Больше про альтернативную Центральную комиссию по выборам никто не слышал. До того как о ней не упомянул Валерий Фролов.

В интервью *"Белорусским новостям"* **Валерий Фролов** сказал, что общественная альтернативная Центральная избирательная комиссия будет квалифицированно и объективно заниматься тем же, чем занимается официальный ЦИК. *"Насколько это будет возможно, альтернативный ЦИК будет рассматривать жалобы кандидатов, следить за процессом регистрации кандидатов в депутаты, информировать население о ходе избирательной кампании... То есть делать то же самое, что и официальная структура"*, — сказал Валерий Фролов.

По его словам, у него уже есть кандидатуры на места в такой общественной структуре. *"Это профессионалы, юристы, которые в свое время работали в избирательных комиссиях, которые знают Избирательный кодекс и могут квалифицированно высказать свое мнение о тех или иных проблемах в ходе избирательной кампании, а также профессионально оценить действия официального Центризбиркома. Скорее всего, получится так, что альтернативный ЦИК будет давать оценку действиям официальной Центральной комиссии по выборам"*, — говорит депутат Фролов.



*Фролов: — Не получишь ни ложки, если обнаружу нарушения в организации избирательной кампании.*

Конечно, никаких иллюзий Валерий Фролов не питает — по его мнению, власть обязательно будет препятствовать работе альтернативной структуры.

Политолог **Владимир Ровдо** в необходимости создания такой структуры в нынешних условиях большого смысла не видит. *"Создание альтернативных структур имеет смысл, но в той ситуации, когда существует какой-то баланс сил. То есть, как говорили большевики, "ситуация двоевластия". Тогда имеет смысл создавать какие-то альтернативные властным структуры. Но в данной ситуации это вряд ли будет эффективно"*, — говорит Владимир Ровдо.

Тем не менее, как считает эксперт *"Белорусских новостей"*, альтернативная Центральная комиссия по выборам не будет совершенно бесполезной — ее работой и результатами этой работы заинтересуются не только в Беларуси, но и на Западе, и вся политизированная часть общества в целом. *"Однако вряд ли стоит рассчитывать на то, что работа такой комиссии даст масштабный политический эффект. Уровень развития общества еще не дорос до уровня развития депутатов "Республики". Ведь даже о голодовке, как ни раскручивала эту тему белорусская независимая пресса, знает совершенно небольшой процент людей. И если общество оказалось глухо к этому жесту отчаяния, то вряд ли его проймет какая-то альтернативная структура"*, — говорит Владимир Ровдо.

**Сергей ПУЛЬША.**

TV-НАВІНЫ

## «ЛАД» вяртае «Культуру»

*З 1 верасня беларускія тэлегледачы зноў змогуць убачыць любімыя перадачы — "Школу злословия" з яе нязменнымі вядучымі Таццянай Талстой і Дуняй Смірновай, а таксама "Культурную революцию" Міхаіла Швыдкога.*

Беларускае тэлебачанне ўрэшце дамовілася з расійскім бокам аб вяртанні на беларускі экран некаторых праграм канала "Культура". Летась, 18 кастрычніка, калі на частотах расійскага канала пачаў вяшчаць "ЛАД", усе праграмы "Культуры" былі выключаны з эфіру. Аднак стварыць свой прадукт, які б не ўступаў расійскаму, відаць, не зусім атрымалася.

На "ЛАД" ішлі лісты ад тэлегледачоў з просьбай аднавіць калі не ўсе, то хаця б лепшыя праграмы "Культуры". Неаднойчы з'яўлялася інфармацыя аб тым, што вось-вось папулярныя расійскія перадачы вернуцца на беларускі экран. Аднак час ішоў, а "ЛАД" па-ранейшаму забаўляў гледачоў айчынным прадуктам.

І вось у Маскве старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі **Уладзімір Матвейчук** і старшыня Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі **Алег Дабрадзееў** падпісалі пагадненне, якое прадугледжвае абмен праграмамі і матэрыяламі. Цяпер беларускі тэлеканал "ЛАД" мае права паказваць такія перадачы, як "Школа злословия", "Культурная революция", "Оркестровая яма", "Остров", "Сферы", "Блеф-клуб", "Пятое измерение", "Арт-панорама", "Линии жизни", "Смехоностальгия", "Графоман". Згодна з пагадненнем, праграмы с лагатыпам "Культуры" будуць выходзіць у эфіры "ЛАДа" з панядзелка па пятніцу. Трансляцыя іх пачнецца з 1 верасня.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Пра Віцебшчыну — з любоўю

Трапяткую любоў да роднай Беларусі і моцнае жаданне падзяліцца гэтым пачуццём з многімі людзьмі натхняе творчасць вядомага журналіста, фотамайстра і прадпрымальніка Сяргея Плыткевіча, мастацкія здымкі якога склалі персанальную фотавыставу, што адкрылася днямі ў Полацкай мастацкай галерэі.

Экспазіцыя пад назвай "Беларуская экзотыка" прадстаўляе гледачам наш родны край (пераважна — Віцебшчыну) як зямлю рэдкаснай, своеасаблівай прыгажосці, дзе яшчэ можна пабачыць запаведныя, не кранутыя часам куткі, непаўторныя краявіды і архітэктурныя цуды.

С.Плыткевіч прапагандуе Беларусь, якой усе мы павінны ганарыцца. Прапагандуе не толькі як адмысловы фатограф, але і як стваральнік і кіраўнік выдавецтва "Рыфтур", што спецыялізуецца на выпуску фотаальбомаў, турыстычных даведнікаў ды іншай краязнаўчай прадукцыі, ілюстраванай цудоўнымі здымкамі Сяргея Плыткевіча, улюбёнага ў Бацькаўшчыну, вартую захаплення і шчаслівай будучыні.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Крадуць таму, што хочацца ўкрасці

Аршанскія міліцыянеры збіліся з ног у пошуках невядомых зладзеяў, якія ўкралі восем дарожных знакаў і дваццаць шэсць ацынкаваных слупкоў для такіх знакаў на ўзбочыне аўтатрасы Орша—Магілёў. Зніклая маёмасць ДЭУ-39 прадпрыемства "Віцебскаўтадар" каштавала больш за мільён рублёў, але значна горшым наступствам крадзяжу з'яўляецца пазбаўленне вадзіцеляў неабходнай інфармацыі і зніжэнне бяспекі руху машын.

Гэта — не першы выпадак крадзяжу дарожных знакаў у Аршанскім раёне.

Здавалася б, ніякага практычнага ўжытку дарожныя знакі не маюць. Аднак міліцыі стала вядома, што вясковыя падлеткі дадумаліся ўстаўляць рэфлексуючыя шкельцы знакаў у колы веласіпедаў, а некаторыя сяляне закрываюць круглымі знакамі бочкі з капустай і вадой. Адзін дачнік, не знайшоўшы ніякага прымянення скрадзенаму знаку, зрабіў з яго "конік" на даху свайго доміка.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

СУД!

## Похмелиться им не дали...

В дом пенсионерки небольшой деревушки Наспа ввалились мужчина и женщина. Угрожая ножом, сняли со стены две старинные иконы и прихватили пять литров варенья и три килограмма свинины. Ночь скрыла следы пришельцев. Но скрыть свои лица им не удалось. Хотя они и обвязались шарфами, хозяйка их узнала. За день до происшествия те приходили в дом подзаработать на распиловке дров.

Для сыщиков Буда-Кошелевского РОВД раскрыть разбойное нападение было делом техники. Как вскоре выяснилось, трижды судимая за кражи 28-летняя жительница соседней деревни Гавли Наталья Волченкова год назад за примерное поведение условно-досрочно освободилась из женской колонии. Предлагая накануне свою помощь в распиловке дров, она заметила в доме хозяйки старинные иконы и решила, что они имеют большую историческую ценность. Долго уговаривать компаньона, 30-летнего рабочего КСУП "Морозовичи" Анатолия Гостева пойти на преступление не потребовалось — у того за плечами имелось ни много ни мало, а семь судимостей.

Для владелицы иконы лики святых действительно имели большую ценность, но только как семейная реликвия. К большой радости потерпевшей, сотрудники милиции вернули ей иконы, которые злодеи успели продать, а деньги, естественно, пропить.

Следующую ночь разбойники встретили за решеткой в состоянии жестокого абстинентного синдрома. Любителям выпивки такое состояние известно как похмелье или, по народному, состояние "бодуна". Увы, похмелиться им не дали.

Недавно суд Буда-Кошелевского района лишил сельского труженика свободы на семь с половиной, а его нигде не работавшую подругу на шесть лет. У обоих конфисковано имущество. Имеющему пагубную страсть к выпивке Анатолию в исправительной колонии строгого режима придется пройти курс принудительного лечения от хронического алкоголизма.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

БОЛЬ!

# Бывай, школа!

**Аляксандр СЯДЗЯКА,**
**намеснік старшыні Таварыства беларускай школы,**
**былы дырэктар СШ №2 г.Мінска**



Я напісаў: бывай, школа! Удакладняю — бывай, **беларуская** школа! Такая асацыяцыя ўзнікла ў мяне на выпускным вечары ў сярэдняй школе №2 г.Мінска, на які мяне запрасілі вучні і бацькі выпускнікоў 2004 года.

Год мінуў, як я ўжо не працую ў гэтай школе, і вельмі хваляваўся перад сустрэчай. Успамінаў тыя дзевяць сваіх дырэктарскіх год, клопаты і радасці, поспехі і няўдачы, былых настаўнікаў і вучняў. Але перш за ўсё думкі круціліся вакол галоўнай мэты, дзеля якой у свой час прыняў на плечы нялёгкі і адказны груз дырэктарскай пасады — зрабіць **беларускую** школу.

Тады, у далёкім цяпер 1994 годзе, грамадства разумела, што пабудова сваёй, беларускай, дзяржаўнасці немагчыма без выхавання свайго, **беларускага, а не савецкага** патрыёта. А гэта ў сваю чаргу вымагае мацаваць грунт нацыянальнай свядомасці, якім для кожнага народа ёсць свая мова і свая гісторыя. Вось і накіравана была тады дзяржаўная палітыка на выхаванне новага пакалення беларусаў, якім з родным словам у душу павінна была ўвайсці Беларусь. Прынялі Закон аб мовах, паступова пераводзілі адукацыю на беларускую мову. Словам, усё як у людзей, бо гэтым жа, не губляючы часу, займаліся і нашы суседзі, былыя савецкія рэспублікі: Украіна, Прыбалтыка... Пытанне выхавання грамадзян-патрыётаў на падмурку нацыянальных каштоўнасцей там не дыскутавалася, разумелася само сабой.

"Напачатку было слова, і слова было ў Бога, і слова было Бог". Так пачынаецца Стары Запавет, так біблейская ісціна сцвярджае вартасць духоўных каштоўнасцяў перад матэрыяльнымі. Іншаму чалавеку для разумення гэтага трэба пражыць усё жыццё, а бывае і гэтага недастаткова. Пра такога чалавека нельга сказаць, што ён пражыў у згодзе з Богам. Так і народ, які не збярог сваю душу, дадзеную Богам мову, мусіць страціць яго падтрымку і, урэшце, знікнуць. Гісторыя мае таму багата прыкладаў.

І прыйшоў я на вечар дзеля таго, каб падзякаваць дзецям і іх бацькам за тое, што ўсе гэтыя гады яны разам са мною захоўвалі і баранілі роднае слова, дадзенае беларусам Богам. Выконвалі яго святы запавет.

Успомніліся апошнія гады, калі пасля рэферэндуму 1995 года асноўным дырэктарскім болем быў набор у беларускія класы. Што толькі не рабілася, каб школа стала прэстыжнай, прывабнай для бацькоў і дзяцей. Атрымалі статус школы з паглыбленым вывучэннем замежных моў, наладзілі сталыя школьныя абмены з некалькімі ліцэямі Францыі, моўныя стажыроўкі для вучняў і настаўнікаў, удзел у міжнародных школьных даследчых праектах з ліцэямі Германіі і Італіі... Вучні сталі паспяхова выступаць на алімпіядах, паступаць у лінгвістычны універсітэт, ЕГУ, на факультэт міжнародных адносін БДУ, на факультэт міжнароднай эканомікі... Бацькі і вучні ў школу паверылі, пытанне аб мове навучання знялося з парадку дня. Як я радаваўся кожнай заяве бацькоў аб прыёме дзіцяці ў беларускамоўны клас. Чым болей дзяцей выйдуць з беларускай школы, тым больш будзе ў краіне грамадзян, для якіх яна будзе маці, а не мачахай. Радавалася сэрца на ўроках, лінейках, ранішніках, школьных святах, дзе так натуральна і арганічна з вуснаў вучняў гучала родная мова, дзе бачыў, як год ад году яна рабілася для мінскіх дзяцей з рускамоўных сем'яў усё больш роднай і дарагой. Маленькі асяродак беларушчыны, кволае зернейка здаровага сэнсу ў сённяшнім бязглуздым ачмурэнні, надзея на будучае Адраджэнне, калі закаласіцца і забуяе роднае слова на беларускай зямлі, "каб не ўмёрлі". Дзеля гэтага варта было жыць і працаваць.

Які ж боль ахапіў мяне пры першых жа словах вядучых урачыстасць выпускнікоў. Як вы разумееце, сцэнарый вечара быў падрыхтаваны на рускай мове. За ўвесь вечар ні з вуснаў дзяцей, ні з вуснаў бацькоў, ні настаўнікаў не прагучала ніводнага беларускага слова. **І гэта на галоўным свяце года ў беларускамоўнай школе.** Як мала часу спатрэбілася новай дырэктарцы **Яскевіч Г.А.**, каб перамяніць каштоўнасці і ўсю атмасферу ў школе. Як фальшыва выглядалі прамовы настаўнікаў, якія не нагадалі дзецям у апошні раз аб святым абавязку кожнага чалавека служыць Радзіме, а выпускнікі, правучыўшыся 11 год на беларускай мове, не прыдумалі на развітанне са школай лепшай песні, чым "...Блин, ё маё...".

Даходзіла да мяне ад бацькоў і неабыякавых настаўнікаў трывожная інфармацыя аб новай палітыцы адміністрацыі школы, якая адразу пасля майго сыходу мінулым летам паспела набраць першы рускамоўны клас і рыхтавала перавод школы на рускую мову навучання. Дазвол на гэта **пакуль** не атрымала, занадта відавочна тады была б прычына расправы з папярэднім дырэктарам. Толькі не хацелася верыць, што так бяззуба схіляць галовы педкалектыў і бацькі перад чалавекам, які прыйшоў разбурыць тое, што так рупліва гадамі зберагалася. А можа, гэта кантрактная сістэма так знявечыла годнасць людзей, што не асмеліліся пярэчыць гвалту? А можа, проста не разумелі, які апошні грамадзянскі ўрок дадуць выпускнікам?

Браць слова з віншаваннямі расхацелася, ды мне яго ніхто і не прапанаваў. Моўчкі сышоў з вечара ў сумным роздуме. Чым кіравалася кіраўніцтва адукацыі горада, прызначаючы дырэктарам адной з апошніх у Мінску беларускамоўных школ, ды яшчэ з паглыбленым вывучэннем замежных моў, чалавека, які не валодае ні беларускай, ні французскай мовамі? Гэта тым больш здзіўляе, што сам старшыня Камітэта адукацыі Мінгарвыканкама М.С.Ціцянкоў закончыў у свой час беларускае аддзяленне філфака БДУ. Ці не такі ж сцэнарый знішчэння Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа рыхтаваўся летась з прызначэннем такой жа "дасведчанай" дырэктаркі? Яе ліцэй не прыняў і быў тады проста фізічна зліквідаваны ў "мэтах аптымізацыі сеткі навучальных устаноў". Выпадковае супадзенне? Думаю, што і сярэднюю школу №2 таксама чакае "аптымізацыя", і яе хутка можна будзе выкрасліць са статыстыкі беларускамоўных школ, тым больш што на сёння там усяго чатыры заявы ў першы клас. Вось і яшчэ адзін парастак Беларусі растаптаны.

Напэўна, многа награшыў у сваёй гісторыі беларускі народ, што так адвярнуўся ад яго Бог. Даруй ім Божа, бо не ведаюць, што робяць. Няма пракоў у сваёй Айчыне.

НЕПРИЧЕСАННОЕ ПИСЬМО

# ...И не один так называемый патриот не поперхнется с горя

Уважаемая редакция "Народной воли"!

Я никогда не писал писем в газеты, но вот не выдержали нервы. Уже столько лжи и клеветы в государственных СМИ, что злость берет. При этом вешает лапшу нам на уши за наши же кровные: то же телевидение содержится, главным образом, за счет бюджета. Лгут и поливают грязью нормальных, честных людей, и не один так называемый патриот не поперхнется, не сгорит от стыда. В стране сотни тысяч безработных, нищенские зарплаты, а они с утра до ночи кричат о росте какого-то благосостояния. Может быть, у них личное состояние и повышается, но за чей счет? Не за тот ли, за который попал за решетку небезызвестный Егор Рыбаков?

Вот уже почти год прессуют нас аля-патриотизмом в связи с 60-летием освобождения Беларуси. Кричат, что заботятся о ветеранах, а на самом деле... Вот прочитал, что для правителя заказан "Боинг". Да, но за деньги, которые пойдут на его приобретение, можно было бы купить для ветеранов-инвалидов не тысячу, не две и даже не десять тысяч автомашин, а гораздо больше! Да и куда летать А.Лукашенко? Кроме России, собственно говоря, и некуда.

А где совесть у депутатов? Их выбирали не для того, чтобы они дрожали от страха при одном упоминании фамилии Лукашенко, а чтобы принимали законы, нормальные законы для своего народа. А то живем по указам да декретам!

А как нужен стране хороший закон о выборах! Уверен, если бы он был, то многие теперешние народные избранники пополнили бы ряды безработных.

А теперь о нашем многострадальном народе.

Пашет, горбатится всю жизнь (если это можно назвать жизнью), не разгибая спины, а его все топчут и давят, превращая в раба и быдло. Чтобы не сильно дергался, перевели на контракт, и он сам подписывается под этим. Говорит мне знакомый: "А куда деваться, мне же скоро на пенсию, вот пригрозили — я и подписал".

Раньше боялись рот раскрыть, что квартиру, путевку, детсад не получат, а сегодня боятся, что пенсию не ту дадут. Так и живут в страхе и зависти.

Моя соседка поливает грязью власть, на чем свет стоит. Но вот приношу "Народную волю" с анкетой в поддержку голодающих: поставь подпись. Взяла газету, почитала и назад принесла. Ушла молча, не подписалась, потому как боится, а, спрашивается, чего?

Что это за власть такая, что мы живем, как при Цанаве и Берии?

И еще о союзе Беларуси и России. Не быть ему до тех пор, пока в обеих странах не будет одинаковых законов.

С уважением —

**Павел СЕНОЖЕНСКИЙ,**
**пенсионер,**
**житель г.п.Старобин.**

